## Дзень за днём

**Беларусь поўнасцю разлічылася па крэдытах МВФ, аднак рэсурсаў для павышэння зарплат, пенсій і дапамог перад выбарамі сёлета не мае. З пачатку года рэзка амаль на 13 % вырасла грашовая маса. З-за эканамічнага спаду ў Расіі валютная выручка беларускіх вытворцаў знізілася на чвэрць, на 1,65 млрд. USD. З 1 красавіка беларусам забаранілі ўвозіць аўтамабілі старэй 2007 года выпуску. У выніку зніжэння цэн на нафту дзяржбюджэт Беларусі недаатрымае сёлета ад 3 да 10,5 трлн. рублёў. Беларусаў, якія шмат куды неабгрунтавана скардзяцца, пачнуць штрафаваць.**

# Важнейшыя навіны свету

**Англія.** Напярэдадні роспуску парламента перад выбарамі 7 мая, па дадзеных апытанняў, ідуць практычна ўровень асноўныя палітычныя сілы – кансерватары і лейбарысты.

**Францыя.** На мясцовых выбарах упэўнена перамаглі правацэнтрысты з апазіцыйнай партыі былога прэзідэнта Нікаля Сарказі, правячыя сацыялісты выступілі няўдала.

**Егіпет.** Глава МЗС Саудаўскай Аравіі Сауд аль-Фэйсал абвінаваціў расійскага прэзідэнта У. Пуціна ў крывадушнасці за распальванне грамадзянскай вайны ў Сірыі.

**Японія.** Услед за лідарамі многіх вядучых краін свету і японскі прэм'ер-міністр Сіндза Абе адмовіўся ад удзелу ў святочных мерапрыемствах у Маскве 9 мая.

**Украіна.** Адзін з главароў прарасійскіх баевікоў "ДНР" А. Хадакоўскі дапусціў пачатак трэцяй фазы вайны ў Данбасе і прызнаўся, што ім ужо патрэбна ўся Украіна.

**ЗША.** Дзярждэпартамент ЗША афіцыйна пацвердзіў, што санкцыі супраць Расіі будуць дзейнічаць да таго часу, пакуль паўвостраў Крым не вернецца ў склад Украіны.

**Расія.** Былы міністр фінансаў РФ А. Кудрын папярэдзіў, што страты расійскай эканомікі ад далучэння Крыма і змяненняў адносін да нас у свеце дасягнуць праз 4 гады 200 млрд. $.

**Швейцарыя.** З-за рэзкага эканамічнага спаду да 30 багатых людзей Расіі з гадавым абаротам іх кампаній 6,5 млрд. $, па дадзеных банка UBS, пакінуць сваю краіну.

**Расія.** Даследванні Інстытута сацыялогіі РАН пацвердзілі, што сітуацыя ў РФ разгортваецца па найгоршым сцэнарыі роста беспрацоўя, збяднення 82 % насельніцтва.

**Казахстан.** Член калегіі (міністр) па эканоміцы ЕЭК Т. Сулейменаў заявіў, што падстаў для ўвядзення агульнай валюты ЕАЭС няма, таварныя патокі пакуль яшчэ вельмі малыя.

**Украіна.** Пасля 9 гадоў вяшчання ўлады Расіі закрылі крымскататарскі тэлеканал ATR і яшчэ 2 радыёстанцыі, тут жыве 400 тысяч татар, большасць з іх за вяртанне на Украіну.

**Узбекістан.** Як і чакалася, прэстарэлы 77-гадовы прэзідэнт краіны з 1989 года Іслам Карымаў зноў атрымаў перамогу на "выбарах" на фоне жорсткага падаўлення апанентаў.

**Турцыя.** З-за маштабнай аварыі ў палове (41) правінцый краіны, уключаючы мегаполісы Анкару і Стамбул, адключылася электрычнасць, такое здарэнне было і ў Галандыі.

**Украіна.** Расійскі палітолаг Станіслаў Бялкоўскі папярэдзіў, што вайна ў Данбасе хутка прадоўжыцца, бо Пуцін будзе пакрыўджаны непрыездам лідараў свету 9 мая ў Маскву.

**Эквадор.** Пры спробе абляцець зямны шар на лёгкаматорным самалёце 62-гадовы швейцарскі лётчык Эрык Гійю ўрэзаўся ў край гары з вулканам і загінуў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Беларуская фінансавая разведка зафіксавала шматлікія спробы вываду капіталу за мяжу грамадзянамі Расіі праз айчынную банкаўскую сістэму, распачала 350 спраў.

**Гомель.** Замест "Гомсельмаша" Харкаўскі трактарны завод падпісаў пагадненне аб стварэнні сумеснага інавацыйнага прадпрыемства з кампаніямі Фінляндыі, ЗША і Канады.

**Мінск.** Вядомы эканаміст Я. Раманчук заявіў, што з-за моцных праблем у расійскай эканоміцы Беларусь чакае рост беспрацоўя мінімум да 10 %, інфляцыя і глыбокая рэцэсія.

**Узда.** У момант атрымання хабару ў суме 8 тысяч еўра ў сталіцы затрымалі главу раёна і дырэктара мясцовага аграсервіса, яны абяцалі замежнай фірме перамагчы ў тэндары.

**Мінск.** Гарадскі суд за хабар у буйным памеры пакараў вялікімі тэрмінамі зняволення ад 7 да 13 гадоў адразу трох следчых Следчага камітэта, падпалкоўніка і двух капітанаў.

**Бабруйск.** Ад займаемай пасады вызвалілі старшыню мясцовага райвыканкама за шматразовае выкарыстанне службовага аўтатранспарту ў асабістых мэтах.

**Мінск.** Каб не працаваць на перапоўнены склад, услед за МАЗам часова спыніў свой галоўны канвеер і МТЗ, упалі заробкі, вымушаныя водпускі чакаюць і іншыя заводы.

**Дзятлава.** З-за абрушэння часткі жалезабетоннага перакрыцця ў адным з цэхаў прыйшлося прыпыніць выпечку хлеба на мясцовым хлебазаводзе, людзі не пацярпелі.

**Лагойск.** З-за падпалу сухой травы агонь знішчыў у вёсцы Прусавічы 3 дачныя дамы, 2 лазні, 3 хлявы і 5 пустуючых хат, вялікае вогнішча патушылі толькі позна вечарам.

**Лунінец.** Вечарам у вёсцы Кожан-Гарадок пасля адмовы старой 83-гадовай маці даць грошай на выпіўку 59-гадовы сын абліў яе бензінам і падпаліў, а сам потым павесіўся.

**Мінск.** Нават у сталіцы вырасла да 28 тысяч колькасць сем'яў з даўгамі на 2 і болей месяцы за камунальныя паслугі, у 607 кватэрах мінчан адключылі газ, свет і ваду.

**Асіповічы.** Міліцыя затрымала 22-гадовага салдата тэрміновай службы, які займаўся распаўсюджаннем парнаграфіі і продажам сексуальных паслуг сваёй сужыцелькі.

**Мінск.** Спецыялісты гандлёвых сетак "Алмі", "Гіппа", "Віталюр" пацвердзілі, што іх пакупнікі сталі зараз істотна эканоміць і купляць больш танныя тавары і прадукты.

**Кобрын.** На помніку і бюсце А. Суворава, якія ўстаноўлены ў райцэнтры, з'явіліся таблічкі з надпісамі "Я – русский оккупант…, я сжигал белорусские сёла".

**Бабруйск.** Пасля абстрэлу з пнеўматычнага пісталета тралейбуса затрымалі раней судзімага 17-гадовага хулігана, ён параніў кантралёра, злачынец можа сесці ў турму на 7-10 гадоў.

## Рэспубліканскі суботнік пройдзе ў Беларусі 18 красавіка



■ БЕЛТА

**Рэспубліканскі суботнік пройдзе ў Беларусі 18 красавіка. Працоўную групу па его падрыхтоўцы і правядзенні ўзначаліць намеснік прэм'ер-міністра Наталля Качанава. Адпаведнае рашэнне замацавана пастановай Савета Міністраў №270 ад 3 красавіка 2015 года, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе ўрада.**

У сувязі з святкаваннем 70-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, аб'явай 2015 Годам моладзі і ў мэтах падтрымкі прапаноў калектываў работнікаў арганізацый і мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў рэкамендавана на добраахвотнай аснове правесці 18 красавіка рэспубліканскі суботнік на працоўных месцах або ажыццявіць добраўпарадкаванне і прывядзенне ў належны стан мемарыяльных комплексаў, помнікаў, месцаў баявой і воінскай славы, пахаванняў часоў Вялікай Айчыннай вайны, а таксама падрыхтоўку дзіцячых аздараўленчых лагераў да летняга сезона.

Згодна з пастановай, заробленыя на працоўных месцах у дзень правядзення суботніка грашовыя сродкі, у аб'ёмах, што вызначаюцца работнікамі, у тым ліку дзейнасць якіх не звязана з вытворчасцю прадукцыі (работ), аказаннем платных паслуг, будуць пералічвацца праз раённыя і гарадскія выканаўчыя камітэты ў аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам. Яны ў сваю чаргу пералічаць 50% Міністэрству фінансаў, 50% застанецца ў іх распараджэнні. Гэтыя сродкі будуць накіраваны на падрыхтоўку дзіцячых аздараўленчых лагераў да летняга сезона, у тым ліку на развіццё і ўмацаванне іх матэрыяльна-тэхнічнай базы, а таксама на рэалізацыю мерапрыемстваў, звязаных з святкаваннем 70-й гадавіны Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, уключаючы рамонт, рэканструкцыю, рэстаўрацыю, аднаўленне мемарыяльных комплексаў, помнікаў, месцаў баявой і воінскай славы, пахаванняў часоў вайны.

«Пры ўдзеле ў рэспубліканскім суботніку некамерцыйных арганізацый грашовыя сродкі па рашэнні калектываў іх работнікаў могуць пералічвацца ў памерах, вызначаных добраахвотна самімі калектывамі, у адпаведнасці з парадкам, што ўстанаўліваецца Міністэрствам фінансаў», - удакладнілі ў прэс-службе ўрада.

Утрыманне наймальнікамі грашовых сродкаў з заработнай платы работнікаў, для якіх 18 красавіка будзе працоўным днём, выраблiецца з іх згоды ў памерах, вызначаных добраахвотна самімі калектывамі работнікаў.

Рэспубліканскім органам дзяржкіравання і іншым дзяржаўным арганізацыям, падпарадкаваным ураду, мясцовым выканаўчым і распарадчым органам даручана стварыць у абласцях, гарадах, раёнах, арганізацыях рабочыя групы па падрыхтоўцы і правядзенні рэспубліканскага суботніка з улікам ўдзелу ў ім грамадзян выключна на добраахвотнай аснове.

Міністэрства транспарту і камунікацый, аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам павінны будуць забяспечыць 18 красавіка бесперабойную працу пасажырскага транспарту.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Глава вобласці М. Шарстнёў падчас "прамой лініі" заявіў, што людзям трэба казаць праўду аб складаным становішчы эканомікі, слабым напаўненні бюджэту.

**Віцебск.** Супраць начальніка абласной хлебнай інспекцыі распачалі крымінальную справу, установлена, што ён каля 50 разоў браў хабар за выдачу неабходных дакументаў.

**Дуброўна.** З-за адсутнасці свайго спецаўтатранспарту ў цэху дрэваапрацоўкі мясцовага райаграсервіса да 1-2 фур у месяц знізіліся аб'ёмы адгрузкі еўрападдонаў за граніцу ў ЕС.

**Лёзна.** Міліцыя затрымала групу мярзотнікаў з Магілёўскай вобласці ва ўзросце 22, 23 і 28 гадоў, яны напалі на 54-гадовага таксіста са Смаленска, хацелі яго задушыць і абрабаваць.

**Віцебск.** Колькасць насельніцтва вобласці летась зменшылася на 3700 чалавек, жыхары Прыдзвіння сталі радзей браць шлюб, нарадзілася на 88 дзетак меней, чым у 2013 годзе.

**Полацк.** Мясцовы дзяржаўны універсітэт адкрыў для ўсіх жадаючых спецыяльныя курсы па свабодным валоданні дзелавой беларускай мовай працягласцю 16 тыдняў вучобы.

**Шаркоўшчына.** З траўмамі трапіў у бальніцу 46-гадовы жыхар райцэнтра, які не меў правоў кіроўцы, сеў за руль іншамаркі, зляцеў з дарогі і ўрэзаўся ў аўтобусны прыпынак.

**Глыбокае.** Жыхароў вёскі Дзеркаўшчына парадавала, што пасля працяглага перапынку зноў адкрылі для руху дарогу паблізу свінакомплексу, яе закрылі падчас успышкі АЧС.

**Паставы.** Трое невядомых злачынцаў залезлі ў дом 35-гадовай жыхаркі вёскі Васіліны, звязалі яе з сынам, пагрозамі забралі 470 USD, іншыя зберажэнні грошай і зніклі.

**Мёры.** Толькі вясной у лясным масіве Мядзельскага раёна знайшлі труп 37-гадовага жыхара райцэнтра, ён летась восенню пайшоў па грыбы на Пастаўшчыне і заблудзіўся.

**Барань.** У адной з кватэр горада-спутніка Оршы з-за неасцярожнасці пры курэнні на падпітку загінулі 49-гадовая гаспадыня з прэстарэлай маці і сваім сужыцелем.

**Шуміліна.** Вучаніца дзіцячай школы мастацтваў па класе цымбал Стэла Шылава стала лаўрэатам Рэспубліканскага конкурсу юных музыкантаў "Музыка дзіцячай душы".

**Чашнікі.** У райцэнтры ўстанавілі памятны знак у гонар земляка, контр-адмірала падводніка Вячаслава Апанасенкі, у раённым музеі адкрылі экспазіцыю яго памяці.

**Віцебск.** Вядомы айчынны гісторык і археолаг Мікалай Плавінскі правёў у горадзе прэзентацыю сваёй новай кнігі "Скарбы, курганы, замкі і іх даследчыкі".

**Орша.** У родны горад прыехала чэмпіёнка Еўропы па лёгкай атлетыцы Аліна Талай і правяла майстар-клас для юных спартсменаў, расказала пра свой шлях у вялікі спорт.

*Служба інфармацыі "ВГ".*



**Кліменцій Кожан,**
*краязнаўца, м. Германавічы.*

# Ён прайшоў сцежкамі Язэпа Драздовіча

## *Мастаку Аляксею Марачкіну – 75 гадоў*

Споўнілася 75 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага мастака Аляксея Антонавіча Марачкіна (псеўданім Алесь Мара). Ён нарадзіўся 10 сакавіка 1940 года ў вёсцы Папоўшчына, цяпер Новая Слабада Чэрыкаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Бацькі лічылі, што правільная дата нараджэння іх сына 30 сакавіка 1940 года.

У 1962 годзе Аляксей Марачкін скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута. Настаўнічаў у горадзе Жодзіна. Сябра Аляксея Марачкіна пісьменнік Уладзімір Сіўчыкаў пісаў, што "жодзінскім школьнікам пашчасціла: настаўнікамі гісторыі ў іх былі Алесь Каралёў і Міхась Ткачоў, а малявання – Анатоль Казарэз і Аляксей Марачкін… Я бясконца ўдзячны Майстру, які падчас свайго побыту ў Жодзіне ў 70-х гадах мінулага стагоддзя настойліва і нястомна займаўся з намі, тагачаснымі падлеткамі. Падтрымліваў прафесійнымі парадамі, выцягваў на эцюды і пленэры, прымушаў да акадэмічных штудый у майстэрнях-сутарэннях, заахвочваў удзельнічаць у калектыўных выставах. Ён быў нам за ўзор нефарматнага настаўніка". ("Народная Воля", 20 сакавіка 2015г, №22 (3967).

У 1972 годзе Аляксей Марачкін скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (цяпер Беларуская акадэмія мастацтваў). Член Саюза мастакоў Беларусі з 1974 года. Працаваў у Мінску, пэўны час як вольны мастак, пасля – галоўным мастаком Мастацкага фонду. У 1988-1997 гадах працаваў у Беларускай акадэміі мастацтваў, выкладаў, загадваў кафедрай жывапісу.

Член БНФ з 1989 года. Адзін з заснавальнікаў і першы старшыня мастацкай суполкі "Пагоня". З 2005 па 2009 год быў кіраўніком Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

З 1966 года Аляксей Марачкін удзельнічае ў мастацкіх выставах. Працуе пераважна ў станкавым жывапісе ў жанрах партрэта, тэматычнай карціны, пейзажа і нацюрморта. Тэматыка яго твораў прысвечана гістарычным падзеям мінулага і сучаснасці, раскрывае багацце духоўнай культуры беларускага народа. Для ранніх твораў характэрны рэалістычная манера адлюстравання ў спалучэнні з аб'ёмна-пластычным, рэльефным пісьмом і сімволіка-алегарычнымі матывамі. З 1990 года творы набываюць характар фармалістычных кампазіцый з камбінаванай манерай выканання і ўмоўнай перадачай аб'ёму.

Стварыў партрэты выдатных дзеячаў беларускай гісторыі і культуры: "Цётка" (1976), "Пачатак. Францыск Скарына" (1978), "М. Гусоўскі" (1980), "Вераніка і Максім" (1981), "Рагнеда" (1982), "Кірыла Тураўскі" (1987), "Сымон Будны" (1989), "Канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега" (1994), "Мікола Ермаловіч" (1994), "Я. Кулік" (1999) і іншыя, серыю партрэтаў "Мае сучаснікі" (1980), філасофска-алегарычных трыпціх "Размова аб вечнасці. Скарына і Парацэльс"(1989-1990), цыкл твораў "Народныя легенды паданні" (1990-1991). Сярод тэматычных кампазіцый: "Мара пра палёт" (1974), "Жанчына з бульбай" (1975), "Гуканне вясны" (1976), "Чаканне" (1979), "Чароўныя арэлі" (1980), "Суладдзе" (1983), "Хто з вас без граху" (1989), "Цяжар" (1991).

Аляксей Марачкін – аўтар шматлікіх пейзажаў: "Адлігa" (1974), "Дарога" (1976), "Абуджэнне" (1978), "Імкненне" (1979), "Рэчка Мнюта. Па мясцінах Я. Драздовіча" (1978) і іншыя. Чарнобыльская тэма адлюстравана ў творах: "Планета Палын" (1987), "Хадора" (1989), "Маці Божая ахвяр Чарнобыля" (1990), "Палеская мадонна" (1991) і іншыя. Да тэм беларуская фальклору мастак звярнуўся ў творах: "Прывіды зімы", "Святаяннік" (1991), "Жывы куст", "Кароль птушак", "Начны прывід" (1992).

Аляксей Марачкін – аўтар шматлікіх маляваных дываноў.



Працы А. Марачкіна захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, у музеях і прыватных галерэях Беларусі, Польшчы, Германіі, ЗША. Аляксей Марачкін не толькі прызнаны і заслужаны мастак, але і паэт. Яго бацька Антон быў вясковым бібліятэкарам і з маленства прывіў свайму сыну любоў і пашану да роднага слова.

Уладзімір Сіўчыкаў піша, што мастак "даўно мог пагрукацца ў дзверы нашай творчай суполкі з альбомам "Аўтаманаграфія", адрэдагаваным Міхасём Скоблам. У адметным, арыгінальным томе творцы найперш вылучаюцца рэпрадукцыі ягоных знакавых твораў, што дакранаюцца з балевымі кропкамі Айчыны, - "Бабка Марыля", "Нацюрморт з дранікамі", "Рэчка Мнюта", гістарычныя партрэты Францыска Скарыны, Івана Луцкевіча, трыпціх "Размова аб вечнасці. Скарына і Парацэльс", роспіс аўтакефальнай царквы Маці Божай Жыровіцкай у заакіянскім Кліўлендзе. Арганічна ўплятаюцца ў выданне ўласная аўтабіяграфія творцы, мастакоўскія вершы, нататкі, развагі, дзённікавыя запісы, цытаты з дакументаў. Натуральна ўспрымаюцца маляваныя дываны Язэпа Драздовіча і Алены Кіш, а таксама створаныя ў іх найлепшых традыцыях дываны "Пагоня", "Страцімлебедзь", "Зайграй, зайграй, хлопча малы! (Прысвячэнне Паўлюку Багрыму)". Знайшлося месца фотаздымкам бацькі Антося і маці Хадоры, жонкі Ірыны, сына Ягоркі і ўнука Злата, фотапартрэтам Ларысы Геніюш, Яўгена Куліка, Зянона Пазьняка, іншых паплечнікаў і калег, а таксама фотавывам крыжоў змагання і пакут у Курапатах, фотанарысам з Чарнобыльскіх шляхоў, з мастакоўскіх майстэрань, з гуканняў вясны…



**"Вераніка і Максім".** *Карціна работы мастака А. Марачкіна.*

Але прычэкваў А. Марачкін выхаду ў свет кнігі вершаў і паэм "Калодзеж у жыцце". У сваёй прадмове рэдактар тома Анатоль Вярцінскі засведчыў, што "Калодзеж…" вельмі празрысты і глыбокі паводле сваёй паэтыкі. Я дазволю сабе зазначыць, што том гэты настолькі важкі, што аб'ёму ягонага магло б хапіць на тры паэтычныя зборнікі… Я ганаруся тым, што стаў ягоным сааўтарам і выдаўцом альбома "Рыцары Пагоні і Арла", прысвечанага славутым постацям Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай" ("Народная Воля", 20 сакавіка 2015г №22 (3967).

Аляксея Марачкіна добра ведаюць у Шаркоўшчынскім раёне, асабліва ў Лужках і Германавічах. У вёсцы Барсукі пад Лужкамі нарадзілася яго жонка Ірына, якая вучылася ў Лужкаўскай сярэдняй школе. На жаль, Ірына рана пайшла з жыцця.

У свой час Аляксей Марачкін задумаў стварыць галерэю партрэтаў славутых дзеячаў нашай гісторыі і культуры. Першым ён напісаў партрэт Язэпа Драздовіча, які нарадзіўся 1 (13) кастрычніка 1888 года ў засценку Пунькі, на ўскрайку прагожай Галубіцкай пушчы, былога Дзісенскага павета Віленскай губерні. Прыязджаючы ў Лужкі і Барсукі, Аляксей Марачкін адпраўляўся на матацыкле ці веласіпедзе ў падарожжа па былой Дзісеншчыне. Ён прайшоў сцежкамі Язэпа Драздовіча, сабраў экспанаты для музея мастацтва і этнаграфіі ў Гарадцы каля Лужкоў. Музей быў адкрыты ў 1982 годзе. У стварэнні музея Аляксею Марачкіну і яго сябрам-мастакам дапамагалі настаўнікі, вучні, жыхары Лужкоў, Гарадца і навакольных вёсак.

На жаль, музей у Гарадцы закрылі. Яго экспанаты перададзены Германавіцкаму музею культуры і быту.

Аляксей Марачкін за высокія дасягненні ў справе нацыянальнага адраджэння, прапаганду культурнай спадчыны беларускага народа ў 1992 годзе быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Сябры і знаёмыя з Шаркоўшчынскага і Глыбоцкага раёнаў жадаюць Аляксею Антонавічу Марачкіну моцнага здароўя, даўгалецця, далейшых поспехаў у развіцці нацыянальнай культуры.

# Плошча сяўбы шматгадовых траў у Беларусі будзе павялічана больш як на 60 працэнтаў

**Плошча сяўбы шматгадовых траў у Беларусі будзе павялічана больш як на 60 працэнтаў. Аб гэтым паведаміў сёння на прэс-канферэнцыі намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Уладзімір Гракун, перадае карэспандэнт БелТА.**

"Мы плануем давесці сяўбу шматгадовых траў да 1 млн 34 тыс. га, - сказаў намеснік міністра. - На сёння ў нас ёсць каля 800 тыс. га, г.зн. у гэтым годзе мы павінны пасеяць 540 тыс. га траў на раллі. Асноўным павінен быць бабова-злакавы кампанент (каля 90 працэнтаў), і ў бабовых мы хацелі б мець 280 тыс. га люцэрны".

Рэспубліканскім аб'яднаннем "Белнасенне", паводле слоў намесніка міністра, праведзены ўжо тэндар па заяўках абласцей, вызначаны аб'ёмы і пастаўшчыкі насення гэтай культуры.

У цэлым, паводле даных Мінсельгасхарча, на 13 красавіка шматгадовыя травы пасеяны на 208 тыс. га, у тым ліку бабовыя і бабова-злакавыя сумесі - на 173 тыс. га.

***БелТА***

# Беларусы спусташаюць украінскія рынкі

## Прадукты ва Украіне каштуюць удвая танней

**Тысячы беларусаў з прымежных раёнаў спусташаюць валынскія рынкі. Ездзіць за пакупкамі ва Украіну жыхарам Берасцейскай і Гомельскай абласцей стала вельмі выгадна. Да прыкладу, прадукты ў суседняй краіне каштуюць удвая танней.**

Журналісты тэлеканала ICTV распавялі пра тое, як тысячы беларусаў двойчы на тыдзень прыязджаюць у памежнае сяло Забалоцце і змятаюць усё – ад будаўнічых матэрыялаў да прадуктаў харчавання.

«Па маянэз, па сыр, агуркі, печыва… Па зефір — каб у шакаладзе толькі быў, — кажа Мікалай Ляшук, адзін з пакупнікоў. — У нас удвая ўсё даражэй. Я пенсіянер, ёсць час, мову вашу ведаю».

Украінскія памежнікі распавядаюць, што апошнім часам колькасць пасажыраў з Беларусі прыкметна вырасла.

«Пасажырапаток павялічыўся ў параўнанні з мінулым годам на 10%, – кажа начальнік аддзела памежнага кантролю Ігар Гаварушчак. -- Мы забяспечылі дадатковыя працоўныя месцы для больш камфортнага праходжання кантролю».

Самыя вялікія чэргі на рынку ў Забалоцці — за малочнымі прадуктамі і каўбасой.

«Тварог у вас тут значна таннейшы, і малако, і алей», — кажа пенсіянерка з Беларусі Алена Паўлік.

Білет з Брэста да Забалоцця каштуе ўсяго 17500 рублёў туды і назад.

***ICTV***

# У Літве ўсё больш тавараў таннее

**Літоўскія статыстыкі, якія назіраюць за цэнамі на 100 тавараў і паслуг, кажуць, што ўсё больш найменняў тавараў таннее.**



«Мы заўважылі, што павялічваецца колькасць прадуктаў, цэны на якія зніжаюцца, і асабліва зніжаюцца цэны на прадукты. Але захоўваюцца тэндэнцыі росту цэнаў на паслугі», — сказала на прэс-канферэнцыі загадчыца Аддзела статыстыкі цэн Дэпартамента статыстыкі Надзея Алеева.

Паводле яе слоў, верагоднасць таго, што цэны на паслугі патроху будуць расці, захоўваецца, аднак яна не змагла сказаць, чаму паслугі даражэюць.

Так, у сакавіку на 1% падаражэла паслуга па замене набоек на мужчынскі абутак, шаўрма з курацінай на вынас і чорная кава ў кавярнях. Ніводная паслуга ў сакавіку ў параўнанні з лютым, не патаннела.

Са 100 тавараў, узятых для аналізу, цэны на 39 тавараў выраслі, на 35 — знізіліся, а цэны на 28 тавараў засталіся без змены.

***Delfi.lt***

# Фэст у Гняздзілаўскім Двары і бездарожжа ў Валасатцы. Адзін дзень у ваколіцах Докшыц

**У першую нядзелю пасля Пасхі каталікі адзначаюць свята Божай Міласэрнасці. Паміж I і II Сусветнымі войнамі ў Вільні манашка Фаўстына Кавальская атрымала адкрыццё ад Бога: трэба прапаведваць і ўшаноўваць Божую Міласэрнасць. Касцёл дужа асцярожна ставіцца да такіх адкрыццяў – таму толькі ў 2000 годзе Папа Ян Павел II увёў свята Божай Міласэрнасці.**



■ **Кастусь Шыталь**, *краязнаўца*

У 2007 годзе манахі капуцыны з Докшыц узяліся аднаўляць капліцу ў Гняздзілаўскім Двары, і надалі ёй тытул Божай Міласэрнасці. У 2005 годзе я ўпершыню ўбачыў капліцу – яе сцены былі спісаныя расейскімі мацюкамі, на адной са сцен нехта намаляваў двухмятровую голую бабу.

Першая пасля II Сусветнай вайны Імша ў Гняздзілаўскім Двары. Фота Кастуся Шыталя, 17 красавіка 2007 года.

За пару год капліцу адрамантавалі. Мастак Валер Шчасны намаляваў абраз Ісуса Міласэрнага (копію таго, які пабачыла ў звышнатуральнай візіі сястра Фаўстына), на сценах напісаў цытаты з Нагорнай казані (Мацвея, 5, 3-10). Цяпер тут штонядзелі а 14.30 служаць імшу.

Кіруюся ў Гняздзілава. Ад Параф'янава, калі ехаць праз Мацееўцы – 18 кіламетраў, гадзіна хуткай язды роварам. Як выязджаў, пачаўся дождж і не пераставаў, пакуль я не прыехаў. Змок як жаба.

Прыехаў. Пуста. За сотню метраў стаіць "Ніва", і каля яе чалавек паліць вогнішча. Ён сам падышоў, запрасіў пагрэцца. То пан Алег, жыве непадалёк і мае ключы ад капліцы. Паліць вогнішча, каб пасля набажэнства пачаставаць людзей ухой ды смажанымі кілбасамі.

Сталі збірацца мясцовыя, пад'ехалі докшыцкія – святары, міністранты, сёстры, хор, вернікі. Чалавек пяцьдзясят. Неба раптоўна распагодзілася, заззяла сонца.

На алтары Хлеб, перамянены ў Цела Хрыстова, людзі моляцца перад Ім. У такія моманты неверагодна адчуваецца блізкасць Хрыста. "Хрыстос уваскрос!" – вітае людзей айцец Андрэй Жылевіч, які раней служыў у Докшыцах, а цяпер будуе касцёл і кляштар у мінскім Уруччы.

"У радаснае свята пасхальнай ахвяры верныя прыносяць праслаўлення дары…", - айцец Віталь апошні раз сёлета спявае пасхальную секвенцыю. На заканчэнне набажэнства – урачысты гімн Te Deum, напісаны Амброзыем Медыяланскім у IV стагоддзі.

*"Перамог Ты брамы смерці,*
*На крыжы ёй вырваў*
*джала,*
*Каб для ўсіх, хто ў Цябе*
*верыць,*
*Радасць вечная заззяла".*

Співаюць і «Wesoły dziś nam dzień nastał...» - польскі велікодны спеў, добра знаёмы тутэйшым вернікам. Шкада, у беларускамоўным малітоўніку «Ойча наш» няма спеву, параўнальнага з ім па прыгажосці.

Пасля набажэнства, падсілкаваўшыся ухой і кілбасой, заводжу размову з міністрантам, вучнем дзясятага класа Уладзіславам. Я яго ведаў з сеціўнай старонкі Dokshitsy Live, цяпер ведаю асабіста. Уладзіслаў прыгожа размаўляе па-беларуску і цікавіцца мясцовай гісторыяй (адно і другое – рэдкасць для Докшыцкага раёна).

Еду на Докшыцы праз Валасатку – месца закінутай вёскі, жыхары якой у 1848 годзе, просячы ў Бога ратунку ад пошасці халеры, збудавалі капліцу. Унутры прыгожыя, выразаныя з дрэва, фігуры распятага Хрыста, Дзевы Марыі і Апостала Яна. Каталіцкую капліцу даглядаюць праваслаўныя з Краснага Беразіна, павязалі на фігуры фартукі з шасцікановымі крыжамі.

Нехта прыходзіў і сёння, пакінуў фарбаванае яйка і некалькі цукерак. Мясцовая традыцыя - пакідаць сімвалічныя ахвяры ў культавых месцах.

Калгаснае начальства загадала заараць абедзве дарогі, што вялі ў Валасатку. Цяпер капліца – адзін з самых цікавых гістарычных помнікаў у ваколіцах Докшыц - адрэзана ад свету.

У Докшыцах жыве мой бацька. Ён праваслаўны, і сёння святкуе Пасху. Раніцай ездзіў за горад – назіраў, як "грае" велікодны раніцай сонца. Перад абразамі гарыць свечка, запаленая ад агню з Храма Труны Гасподняй у Ерусаліме.

Пасля смачнай, са святочных страваў, вячэры, калі ноч апусцілася на зямлю, выязджаю і кіруюся ў Параф'янава. Нешта каля 40 кіламетраў праехаў за сёння.



**Капліца ў Валасатцы.** 2013 год. *Фота Кастуся Шыталя*

# Нядзеля Божай Міласэрнасці адзначалася ў Лучаі



**У другую Велікодную нядзелю Касцёл перажывае ўрачыстасць Божай Міласэрнасці. Свята было ўстаноўлена 15 год таму святым Янам Паўлам II.**

■ **Алена Клімза-Колтан**

Лічацца, што гэта "апошняя саломінка" для грэшнікаў. Пан Езус падчас аб'яўленняў святой сястры Фаўстыне Кавальскай заклікаў маліцца вяночкам: "Хоць бы грэшнік быў непераканальны, калі раз толькі адгаворыць гэты вяночак, заслужыць ласкі з бясконцай Міласэрнасці Маёй".

Лучайская парафія асаблівым чынам адсвяткавала гэтую нядзелю. Парафіяне, а таксама вернікі з родных для ксяндза пробашча Шаркаўшчыны, прыбылі ў святыню, каб у гэтае цудоўнае свята паўдзельнічаць у святой Імшы ў інтэнцыі ксяндза Мікалая Ліпскага. Справа ў тым, што 8 год таму ксёндз Мікалай атрымаў святарскае пасвячэнне з рук біскупа Уладзіслава Бліна. Гэта адбылося на Вялікдзень 8 красавіка 2007 года. Ксёндз Мікалай падчас літургіі дзякаваў Пану Богу за дар святарства і за тых людзей, якіх Бог ставіць на яго жыццёвым шляху. Землякі, каб выказаць сваю падтрымку, падрыхтаваліся да гэтай падзеі. Шаркаўшчынская паэтка Кацярына Сосна спецыяльна да гэтай падзеі прыўрочыла верш-пажаданне ксяндзу Мікалаю. Карціна з рамонкаў – кветак сімвалізуючых чысціню, пакорлівасць, самаахвярнасць, вышытая стужкамі, была таксама падарункам да гэтага дня. Святар таксама атрымаў кветкі і песню "Настаўнік" у выкананні моладзі.

Пасля святой Імшы адбылася сустрэча з госцем Андрэем Хадановічам. Ксёндз пробашч, прадстаўляючы парафіянам знакамітага Беларуса, сказаў, што цяжка пералічыць усе тытулы: паэт, музыкант, перакладчык, пісьменнік. Акрамя гэтага, Андрэй Хадановіч выкладае гісторыю французскай літаратуры на філалагічным факультэце БДУ, з'яўляецца чальцом Саюза беларускіх пісьменнікаў, з 2008 году – старшыня Беларускага ПЭН-Цэнтру. Творчасць Хадановіча адрозніваецца багатай і разнастайнай моваю, стылістычнымі эксперыментамі, іранічнасцю стыля. У сваім выступе паэт і музыкант выканаў разнастайныя творы са свайго рэпертуару. Гледачы адудзячылі выканаўцу апладысментамі і кветкамі.

На развітанне святар паблаславіў прысутных на добрае вяртанне дамоў і традыцыйна запрасіў на наступны фэст і адпустовую ўрачыстасць у гонар святога Андрэя Баболі, якая пройдзе 16 траўня.

# Гурт «Laudans» запрашае на канцэрт




**У нядзелю, 19 красавіка ў Глыбоцкім ГЦК адбудзецца канцэрт каталіцкага музычнага гурта "Laudans".**

Гурт вырас з праекту песень на вершы польскага ксяндза-паэта Яна Твардоўскага ў перакладзе на беларускую мову. Паступова змяняўся склад калектыву і ўрэшце цяпер "Laudans" складаецца з вакаліста і гітарыста Андрэя Лугіна і Алёны Палачанскай, якая грае на сінтэзатары і таксама складае песні. Часта гурт запрашае іншых музыкаў.

Пачатак а 16 гадзіне ў ГЦК.

**Кошт білета 20 тыс.бел. руб. Сродкі ад канцэрта пойдуць на дабрачынныя мэты Карытас.**

## Віншаванкі

Анну Леанідаўну Мартыноўскую

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Анну поздравить с Днем рожденья
От души сегодня мы хотим.
Вам желаем вечного везенья,
Искренне сегодня говорим:

Вы прекрасны, так пускай с годами
Расцветает ваша красота,
И за всеми добрыми делами
Пусть любовь скрывается всегда!

*Калектыў «ВГ»*

# Вынікі спецыяльнага комплекснага мерапрыемства «Нагляд»

**На ўліку ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС знаходзіцца 283 асобы, з якіх:**

**● па прысудах судоў да мер пакарання, не звязаных з пазбаўленнем волі, – 143 асуджаных;**

**● тыя, хто знаходзіцца пад прафілактычным наглядам, якія маюць не знятую і не пагашаную судзімасць – 140 асоб.**

Начальнік крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС капітан міліцыі

Згодна з плана асноўных арганізацыйных мерапрыемстваў Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь на першае паўгоддзе 2015 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна з 1 па 10 красавіка было праведзена спецыяльнае комплекснае мерапрыемства «Нагляд» з удзелам супрацоўнікаў усіх падраздзяленняў і службаў Глыбоцкага РАУС, з прыцягненнем супрацоўнікаў Глыбоцкага ТДА «Ахова».

Падчас правядзення СКМ «Нагляд» былі падвергнуты праверцы ў вячэрні і начны час сутак па месцы жыхарства і працы ўсе асобы, якія стаяць на ўліку ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС.

У ходзе правядзення мерапрыемства ўстаноўлены 1 прэвентыўны нагляд, распачата 1 крымінальная справа за парушэнне патрабаванняў прэвентыўнага нагляду, выяўлена 2 парушэнні патрабаванняў прэвентыўнага нагляду, матэрыялы ў дачыненні да якіх накіраваны ў Глыбоцкі раённы следчы камітэт для дачы прававой ацэнкі. Складзена і разгледжана 3 адміністрацыйныя пратаколы ў дачыненні да асоб, у дачыненні да якіх прэвентыўны нагляд можа быць усталяваны.

Ва ўстанове аховы здароўя «Глыбоцкая ЦРБ» была праведзена медыцынская камісія, для вызначэння стану здароўя і магчымасці знаходжання ў лячэбна-працоўным прафілакторыі 3 асоб, якія маюць судзімасць і якія злоўжываюць спіртнымі напоямі. Адна асоба, якая мае судзімасць, накіравана ў ЛПП.

Вынесена 2 спагнанні, асобам, што парушаюць парадак і ўмовы адбывання пакарання, не звязаныя з пазбаўленнем волі.

6 красавіка гэтага года было праведзена пашыранае пасяджэнне назіральнай камісіі пры Глыбоцкім райвыканкаме з удзелам намесніка пракурора раёна і ўсіх суб'ектаў прафілактыкі. На дадзеным паседжанні было разгледжана 9 асоб, якія стаяць на ўліку ў інспекцыі не працуюць і якія злоўжываюць спіртнымі напоямі. У ходзе разгляду ім былі вынесены пракурорскія папярэджанні.

У перыяд правядзення СКМ «Нагляд» на тэрыторыі Глыбоцкага раёна рэцыдыўных злачынстваў асобамі, якія маюць не знятую і непагашаную судзімасць, не допушчана. На тэрыторыі раёна дасягнуты пэўныя вынікі, што станоўча ўплываюць на аздараўленне крымінагеннай абстаноўкі і спрыяюць зніжэнню ўчынення паўторных злачынстваў асобамі, якія маюць судзімасць.

З выкарыстаннем розных метадаў працы, з прыцягненнем усіх суб'ектаў прафілактыкі, уключаючы працоўныя калектывы, сельскія выканаўчыя камітэты, грамадскія фарміраванні і г.д, у бягучым годзе ўдалося знізіць узровень рэцыдыўнай злачыннасці на тэрыторыі Глыбоцкага раёна.

У мэтах далейшай працы па падтрыманні правапарадку на тэрыторыі Глыбоцкага раёна неабходна ўсім грамадзянам не заставацца ў баку і пры выдомых ім фактах парушэнняў грамадскага парадку асобамі, якія маюць судзімасць, звяртацца ў Глыбоцкі РАУС па тэлефонах: 102, 2-27-02,2-17- 60.

# Працаваць на сельскагаспадарчай тэхніцы пад паветранымі лініямі электраперадач небяспечна

**Ахоўная зона ўсталёўваецца ўздоўж паветраных ліній электраперадачы (ВЛ) у выглядзе зямельнага ўчастка і паветранай прасторы і абмяжоўваецца вертыкальнымі плоскасцямі, адлеглымі па абодва бакі лініі ад крайніх правадоў пры іх неадхіленым становішчы на адлегласці 2 метры для ВЛ напружаннем да 1 кВ і ВЛС, 10 м – для ВЛ 6-10 кВ, 15 м – для ВЛ 35 кВ, 20м – для ВЛ 110 кВ, 25 м – для ВЛ 220кВ, 30м – для ВЛ 330кВ, 40 м – для ВЛ 750 кВ.**




■ **А.Н.Ішуцін,**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА «Энерганагляду»*

Памятаеце! Пры працы машын пад ВЛ асабліва небяспечным з'яўляецца набліжэнне машыны на недапушчальную адлегласць да провада, непасрэдны дотык да провада ВЛ, абрыў провада або яго падзенне на машыну.

**Энерганагляд нагадвае, што ў ахоўных зонах ліній электраперадачы забараняецца:**

■ набліжацца да правадоў, якія ляжаць на зямлі, да апораў, якія маюць абарваныя правады або дугавое замыканне, на адлегласць менш за 20м, а таксама працаваць у такіх зонах;

■ выконваць сельскагаспадарчыя работы ручным інструментам на адлегласці менш за 3 м ад апор ВЛ;

■ дакранацца да апораў ВЛ, залазіць на іх, прыбудоўваць да апораў металічныя платы, якія-небудзь прадметы, а таксама прывязваць хатніх жывёл;

■ ажыццяўляць пагрузачна-разгрузачныя работы;

■ ставіць сцірты саломы, стагі сена, размяшчаць палявыя станы, разводзіць агонь;

■ выконваць рамонтна-прафілактычныя працы на сельскагаспадарчых і іншых машынах;

■ працаваць пры набліжэнні і падчас навальніцы;

■ працаваць на высокагабарытных машынах вышынёй больш за 4,5 метраў;

■ запраўляць машыны гаручым палівам.

Машыны і механізмы павінны быць тэхнічна спраўныя, запраўленыя гаруча-змазачнымі матэрыяламі, укамплектаваныя супрацьпажарным інвентаром і неабходнымі сродкамі па электрабяспецы.

Энерганагляд папярэджвае, што ў адпаведнасці з Кодэксам Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях па артыкуле 20.3 "Парушэнне правілаў аховы электрычных сетак" цягне накладанне штрафу ў памеры да 50 базавых велічынь, а на юрыдычную асобу да 500 базавых велічынь.

# Лавіць рыбу каля ЛЭП – небяспечна для жыцця

**З надыходам чарговага сезона рыбнай лоўлі «Энерганагляд» папярэджвае аб тым, што рыбалка ў ахоўнай зоне паветраных ліній электраперадачы (ЛЭП) забароненая.**

■ **А.Н.Ішуцін,**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА «Энерганагляду»*

Правіламі ўстанаўліваюцца ахоўныя зоны электрычных сетак да 10 м ад праекцыі крайняга провада на зямлю для ЛЭП 10кВ, 15м для ВЛ-35 кВ і 20 м для ВЛ-110 кВ.

Паважаныя рыбакі, звярніце ўвагу, што на апорах ЛЭП паблізу вадаёмаў размешчаны папераджальныя або забараняючыя плакаты: «Лоўля рыбы забароненая», «Ахоўная зона ЛЭП» або іншыя надпісы, якія інфармуюць аб небяспецы. Гэтыя плакаты работнікамі РЭС абнаўляюцца штогод. Папярэджваючы аб небяспецы, энергетыкі спрабуюць выратаваць вам жыццё. Будзьце і вы ўважлівыя, падыходзячы да ЛЭП любога напружання, неабходна памятаць аб ахоўнай зоне і пераканацца, што на шляху няма правіслых ці абарваных правадоў. Пры іх выяўленні варта арганізаваць ахову месца пашкоджання, папярэдзіць усіх навакольных аб небяспецы набліжэння на адлегласць менш 8-10 м і неадкладна паведаміць аб пашкоджанні ў РЭС па тэлефоне 2-62-41 або 101 у РАНС.

Перад тым, як раскласці вуду ці іншыя снасці і закінуць іх, пераканайцеся ў тым, што вы знаходзіцеся ў бяспечным месцы, па-за зонай ЛЭП. Звычайна адлегласць ад бліжэйшых правадоў да зямлі або воднай роўнядзі вадаёма 6-10 метраў, а даўжыня вудаўя з аснасткай перавышае дадзеныя адлегласці ў некалькі разоў. Таму верагоднасць патрапіць пад напружанне і ўздзеянне электрычнага току ўзрастае шматкроць. Часам нават няма прамога кантакту з токаводнымі часткамі ЛЭП, а, наблізіўшыся на недапушчальную адлегласць да іх, можна падвергнуць сябе і навакольных уздзеянню электрычнага току.

Уяўляе небяспеку рыбная лоўля пры набліжэнні або падчас навальніцы, таму што вугляпластыкавае вудаўё і мокрая лёска з аснасткай з'яўляюцца добрым правадніком электрычнага току.

Беражыце сваё жыццё!



# Лукашэнка прапануе ў кожным раёне вызначыць па некалькі перспектыўных вёсак

**Аляксандр Лукашэнка прапануе ў дадатак да аграгарадкоў у кожным раёне вызначыць па некалькі перспектыўных вёсак і забудоўваць іх даступным для вяскоўцаў жыллём. Пра гэта сёння ішла размова ў час наведвання кіраўніком дзяржавы СУП «Азярыцкі-Агра» ў Смалявіцкім раёне.**

Акрамя аграгарадкоў, трэба вызначыць у якасці перспектыўных 3-5 вёсак, мяркуе Лукашэнка. Такімі вёскамі могуць быць былыя цэнтры аб'яднаных гаспадарак. Неабходная інфраструктура там ёсць. На незанятых участках можна будаваць жыллё.

«Нам трэба для вяскоўцаў рабіць танныя дамы, – сказаў кіраўнік дзяржавы. – Такім чынам мы можам такія вёсачкі зноўку забудаваць і пасяліць туды людзей».

«Нам трэба перспектыўныя аграгарадкі плюс такія вёскі, куды людзі пойдуць жыць. Трэба ў кожным раёне мець такую карту», – адзначыў кіраўнік дзяржавы.

Лукашэнка падкрэсліў, што вёска – гэта аснова жыцця ў славянскіх краінах. «Калі мы згубім вёску, то згубім краіну», – рэзюмаваў Аляксандр Лукашэнка.

*БелТА*



# Аляксандр Лукашэнка: Трэба развіваць сетку беларускай кухні

**Лукашэнка лічыць неабходным развіваць у краіне сетку беларускай кухні.**

Пра гэта ён заявіў сёння ў час рабочай паездкі ў Мінскую вобласць і наведвання аздараўленчага цэнтра «Сасновая» СУП «Азярыцкі-Агра».

«Мне здаецца, яна б была нармальнай. Каб там былі стравы, якія мы ямо, і ў любым горадзе. Па-першае, і сабекошт быў бы невысокі, і людзям даступна, і сетка была б нармальная», — адзначыў кіраўнік дзяржавы.

*БелТА*

■ Анастасія Зелянкова

# Голас народа: беларусы жадаюць рэальных рэформаў ці толькі падвышэнні зарплаты?

**Больш паловы насельніцтва гатова да змены эканамічнай мадэлі развіцця краіны, але ці саспеў народ да зменаў?**

Пра гэта сведчаць вынікі агульнанацыянальнага апытання, праведзенага ў сакавіку бягучага года Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД).

У прыватнасці, 51,5% апытаных заявілі, што гатовыя да змены мадэлі эканамічнага развіцця Беларусі і толькі 33% адказалі «не».

Характэрна, што ў канцы студзеня падчас прэс-канферэнцыі **Аляксандр Лукашэнка** адзначыў , што Беларусь не гатовая да рэзкай змены мадэлі эканамічнага развіцця.

— Здзівіць я гатовы любой мадэллю. Але ці гатовыя вы пераварыць гэту мадэль? Ці гатова грамадства да тых вялікіх навацый, якія могуць прапанаваць палітыкі, у тым ліку і я? Думаю, што не заўсёды, — сказаў кіраўнік дзяржавы.

**— Так ці саспеў беларускі народ да зменаў?**

— Не варта напроста тлумачыць дадзеныя, якія атрымліваюцца ў выніку сацапытанняў, — тлумачыць эксперт НІСЭПД Сяргей Нікалюк. — Гэтыя лічбы адлюстроўваюць толькі некаторую незадаволенасць бягучай сітуацыяй. Чалавека абсалютна не цікавяць іншыя эканамічныя мадэлі, толькі калі яго ўсё задавальняе.

Аналітык падкрэслівае, што самі па сабе дадзеныя сацапытання ні пра які рэфарматарскі настрой у грамадстве не кажа.

— Людзі нават не задумваюцца: у чым сутнасць зменаў, і які кошт за іх прыйдзецца заплаціць? Так што я б не рабіў далёка ідучых высноў, — кажа эксперт.

**— Чаму ж не задумваюцца? Дадзеныя апытання сведчаць, што амаль 40% лічаць, што «нашаму грамадству неабходныя сур'ёзныя рэформы (структурныя і сістэмныя змены)», яшчэ звыш 42% — што «нашаму грамадству неабходны паступовыя рэформы.**

— Калі ў адным з апытанняў НІСЭПД мы пыталі беларусаў: што вы разумееце пад рэформамі, то ў першую чаргу людзі казалі пра падвышэнне зарплат і пенсій. Беларусы нават гатовыя патрываць трошкі, чакаючы, што зарплаты пачнуць расці заўтра. Але калі іх паставіць у сітуацыю, калі прыйдзецца самім адказваць за рост сваіх зарплат і пенсій, то прыхільнікаў рэформаў будзе мала.

**— Атрымліваецца, што праў Лукашэнка: яго грамадская мадэль задавальняе большасць беларусаў?**

— У аснове гэтай мадэлі наогул не Лукашэнка ляжыць, а патэрналісцкі чалавек, не здольны адказваць за сябе, прымаць рашэнні. У 1994-м годзе большасць беларусаў зрабіла вельмі рацыянальны выбар. Дакладней, уцякло ад выбару. Прыйшоў Лукашэнка і сказаў: «Я ўсё гэта вазьму на сябе». Беларусы за яго прагаласавалі, таму што іншага варыянту для людзей, якія не здольныя пражыць без патэрналісцкай падтрымкі з боку дзяржавы, не было. Яны не ведалі: як жыць ва ўмовах рынка, а, галоўнае, не жадалі самі вырашаць свой лёс.

Структура нашага грамадства з тых часоў практычна не змянілася, у тым ліку дзякуючы высілкам Аляксандра Лукашэнкі, які робіць усё, каб да іншай мадэлі беларусы былі не гатовыя. Таму што ён можа абапірацца толькі на людзей, якія патрабуюць у патэрналісцкага клопату дзяржавы.

Варта прызнаць, што за апошнія 10 гадоў прыбыткі ў насельніцтва раслі, узровень жыцця павялічваўся. Не дзіўна, што ў цэлым большасць беларусаў існай мадэллю задаволеныя.

Але гэта мадэль ідзе да поўнага краху. Трагедыя беларусаў у тым, што жыць па-новаму мы яшчэ не можам, а па-старому ўжо не атрымліваецца.

**— Тым не менш, наша грамадства – не безнадзейнае. Цяпер 32,6% рэспандэнтаў кажуць, што «важней захаванне цяперашняга становішча», а для 56,5% — яго змена. Для параўнання, у чэрвені мінулага года было адпаведна 38,3% і. 52,1%. Атрымліваецца, што рэфарматарскі працэс у свядомасці беларусаў усё ж ідзе?**

— Гэта — нязначныя змены. Раней яны залежалі ад стану эканомікі, а пачынаючы з сакавіка мінулага года, фармуюцца пад уплывам вонкавых фактараў. Падзеі ва Украіне істотна скажаюць звыклыя рэакцыі беларускага грамадства.

**— Якім чынам?**

— У цэлым украінскі фактар павялічвае настроі беларусаў, іх аптымізм з нагоды будучыні. Гэта злучана з тым, што аснову нашай большасці можна характарызаваць як чалавека савецкага. А ў яго ёсць свае характарыстыкі, у тым ліку і імперскасць. Яна, дарэчы, уласцівая і беларусам.

Цяпер назіраецца рост сацыяльных настрояў на фоне пагаршэння эканомікі. Такога ў нас звычайна не адбывалася. Я назваў гэта – анамалія 2014-га. Яна адбылася пад уплывам расійскай прапаганды.

У апошні час амплітуда гэтай анамаліі змяншаецца. Але пакуль яна выразна выяўляецца і фіксуецца ў сацапытаннях, паколькі трэнды ў нас захоўваюцца мінімум 10-15 гадоў.

**Даведка «Заўтра тваёй краіны»**

Дарэчы, па меркаванні службоўцаў, важней за ўсё правесці рэформы ў эканоміцы і сістэме дзяржаўнага кіравання.

Гэта высветлілася падчас даследавання меркавання дзяржаўных службоўцаў, якое праводзілася ў рамках праекта «Рэфорум» Беларускім інстытутам стратэгічных даследаванняў (BISS, Вільня).

На пытанне «Ці патрэбныя ў Беларусі рэформы?» дадатна адказалі 86% службоўцаў. Яны лічаць, што рэформы павінны быць ліберальнымі па сваёй сутнасці: 56% дзяржслужачых лічаць, што рэформы павінны быць накіраваныя на зніжэнне ўплыву дзяржавы і ступені дзяржаўнага кантролю, і толькі 26% прытрымваюцца процілеглага пункта гледжання.

У эканоміцы самымі неабходнымі мерамі з пункту гледжання службоўцаў з'яўляюцца забеспячэнне вольнай канкурэнцыі дзяржаўных і прыватных прадпрыемстваў (62% падтрымкі), развіццё рынка каштоўных папер і акцый (34%), адмена кароткатэрміновых працоўных кантрактаў і вялікая воля кіраўнікоў прадпрыемстваў (па 30%), а таксама прыватызацыя малых і сярэдніх прадпрыемстваў (26%).

У вобласці дзяржаўнага кіравання службоўцы лічаць неабходным павялічваць прафесіяналізм дзяржслужачых пасродкам розных адукацыйных праграм (65%), выкараняць сістэму прыёму на службу дзякуючы знаёмствам і асабістай лаяльнасці дзяржаве (63%), а таксама развіваць «электронны ўрад» (56%).

# БДУ запусціў сайт для абітурыентаў

**Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт запусціў сайт для абітурыентаў** (www.abiturient.bsu.by), **з дапамогай якога старшакласнікі змогуць "вызначыцца са спецыяльнасцю, сабраць неабходны пакет дакументаў для паступлення і атрымаць адказы на ўсе пытанні, якія тычацца ўступнай кампаніі", паведамляе прэс-служба ВНУ**.

На сайце, у прыватнасці, даступны сэрвіс "Каляндар абітурыента", дзе пазначаныя даты Дзён адчыненых дзвярэй, рэпетыцыйнага і цэнтралізаванага тэставання і іншых мерапрыемстваў для абітурыентаў.

З дапамогай раздзела "Выбар спецыяльнасці" старшакласнікі змогуць выбраць спецыяльнасць БДУ зыходзячы з прадметаў цэнтралізаванага тэставання, якія яны плануюць здаваць, і кваліфікацыі, што прысвойваецца пасля заканчэння ВНУ.

У асобным раздзеле размешчана інфармацыя для замежных абітурыентаў. На сайце можна задаць і іншыя пытанні, якія тычацца паступлення.



Рэсурс прадугледжвае інтэграцыю з афіцыйнымі старонкамі БДУ ў сацыяльных сетках "УКантакце", Facebook, Twitter, YouTube, Instagram, Tumblr, Pinterest, LinkedIn і Google+.

"Сайт адаптуецца пад прагляд на планшэтах і смартфонах, што асабліва важна, бо за апошні год паток зваротаў да раздзела "Абітурыент" сайта БДУ з мабільных прылад вырас у два разы", — расказаў начальнік медыяцэнтра БДУ Павел Салаўёў.

*Анастасія Салановіч, БелаПАН.*

# Таццяна Караткевіч завітала ў Глыбокае


Таццяна Караткевіч

**Неўзабаве ў нашай краіне будуць абвешчаныя прэзідэнцкія выбары.**

З гэтай нагоды, у Глыбокае, для сустрэчы з мясцовым грамадскім актывам, завітала Таццяна Караткевіч, якая, меркавана, будзе вылучаная прэтэндэнтам на рэгістрацыю кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь ад грамадскай кампаніі "Гавары праўду".

Па словах Таццяны Караткевіч, наш беларускі электарат падзяляецца на тры катэгорыі: 1) у нашай краіне – усё добра, нічога змяняць не трэба 2) краіне патрэбныя радыкальныя змены і адзінае выйсце – ладзіць свой "майдан" 3) краіне патрэбныя перамены, але наш шлях – негвалтоўны, шлях мірных пераменаў.

Трэцяй пазіцыі трымаецца і Таццяна Караткевіч з грамадскай кампаніі "Гавары праўду".

«Гавары праўду» прапануе вылучыць Караткевіч кандыдатам у прэзідэнты ад праекта «Народны рэферэндум» (ён аб'ядноўвае «Гавары праўду», Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю (Грамада), Партыю БНФ і рух «За Свабоду»).

*Ул. Скрабатун.*

# Старшыня Рыжскай Думы прагназуе спрашчэнне візавага рэжыму паміж Беларуссю і ЕС пасля саміту ў маі

**Старшыня Рыжскай Думы Ніл Ушакоў прагназуе спрашчэнне візавага рэжыму паміж Беларуссю і Еўрасаюзам пасля саміту "Усходняга партнёрства" ў маі. Аб гэтым ён паведаміў у эфіры тэлеканала СТБ, паведамляе БелТА.**

"Можна прагназаваць пэўнае спрашчэнне ў візавым рэжыме", – сказаў Ніл Ушакоў. Ён устрымаўся ад каментарыяў наконт таго, з якой скорасцю і ў якім фармаце будзе вырашацца гэта пытанне, аднак выказаў меркаванне, што праз нейкі час для некаторых груп беларускіх грамадзян (студэнты, бізнэсмэны і інш) можа быць уведзены спрошчаны або бязвізавы рэжым. "Гэта не ўтопія і ў прынцыпе можа быць рэальнасцю", - лічыць старшыня Рыжскай Думы.

Ніл Ушакоў звярнуў увагу і на неабходнасць зніжэння кошту шэнгенскіх віз для беларускіх грамадзян.

Старшыня Рыжскай Думы закрануў павышэнне іміджу Беларусі на міжнароднай арэне ў сувязі з ініцыятывамі па ўрэгуляванні ўкраінскага крызісу. "Ролю Беларусі немагчыма недааценіць, гэта роля вельмі вялікая", – упэўнены ён. Ніл Ушакоў таксама дадаў, што адносіны паміж Беларуссю і ЕС "па азначэнні павінны быць добрымі і дружалюбнымі".

Латвійская дэлегацыя на чале з Нілам Ушаковым знаходзілася ў Мінску з 7 па 10 красавіка і прыняла ўдзел у латвійска-беларускім бізнэсфоруме.

*БелТА*

# У Оршы згарэла маладая маці з дзвюма дочкамі

**Жанчына з двума малетнімі дзецьмі загінула на пажары, які адбыўся 11 красавіка ў Оршы.**

Пажарнікам паведамленне пра пажар паступіла ў 23:31 — гарэлая прыналежная 57-гадоваму беспрацоўнаму двухпакаёвая кватэра на вуліцы Магілёўскай. Агнём на кухні знішчана мэбля. У выніку пажару загінулі 29-гадовая дачка гаспадара і ўнучкі 6-ці і 7-мі гадоў, паведамляе прэс-служба МНС.

Прычына пажару высвятляецца.

*ННВ*

